ПОГЛЯД

## ПІКЕТЧЫКІ АБЫШЛІСЯ ЛЁГКІМ СПАЛОХАМ

**Як мы паведамлялі, 10 снежня каля будынка Нацбанка, на праспекце Ф. Скарыны ў Мінску прайшоў пікет маладзёжных арганізацый «Маладая грамада», «Чырвоны жонд» і іншых, якія пратэставалі супраць парушэння правоў чалавека.**

Гэты пікет ніякім чынам не быў звязаны з адкрыццём непадалёк закусачнай «Макдональдс»... Дзень і месца пікетавання былі выбраны не выпадкова: 10 снежня адзначаўся Сусветны дзень правоў чалавека, а тратуар насупраць Нацбанка ўвайшоў у гісторыю як месца, дзе 30 мая з прымяненнем сілы была разагнана маніфестацыя мінчан у падтрымку сямі зняволеных украінскіх грамадзян.

На гэты раз таксама не абышлося без затрымання і пакарання арганізатараў і ўдзельнікаў пікета. Яшчэ толькі прыбыўшы на месца пікетавання, арганізатары атрымалі ад супрацоўнікаў аховы правапарадку запрашэнне адразу ж пасля завяршэння акцыі самастойна прыйсці ў Ленінскі РАУС. Як ні было дзіўна, але арганізатары, згадзіўшыся на гэта, стрымалі сваё слова і прыйшлі туды а трэцяй гадзіне, зэканоміўшы тым самым міліцэйскі бензін. Павёў усю «працэсію» з пяці чалавек дэпутат Вярхоўнага Савета Павел Знавец. Там на гэтую пяцёрку былі складзены пратаколы аб парушэнні імі артыкула 167-1 Кодэкса аб адміністрацыйных парушэннях. Яны абвінавачваліся ў парушэнні парадку правядзення дэманстрацый і шэсцяў.

П. Знавец і яшчэ чатыры «добраахвотна затрыманыя» былі адпушчаны, прычым П. Знаўца ў органаў міліцыі няма ніякай магчымасці прыцягнуць да адміністрацыйнай адказнасці, паколькі ён валодае дэпутацкім імунітэтам. Рэштка арганізатараў і ўдзельнікаў пікета 11 снежня прыбылі ў Ленінскі раённы суд сталіцы. З «добраахвотнікамі» былі і іншыя маладыя людзі, якія з'явіліся 10 снежня ў Ленінскі РАУС не сваім ходам. Пасля заканчэння пікетавання прыблізна з дзесятак студэнтаў, удзельнікаў пікета, былі затрыманы супрацоўнікамі міліцыі ў цывільным адзенні.

11 снежня пасля абеду ў Ленінскім райсудзе большасці затрыманых напярэдадні арганізатараў пікета былі прысуджаны 50-тысячныя штрафы. Некаторым прысудзілі адны суткі, якія тыя ўжо адседзелі адразу ж пасля затрымання, а рэшта звычайных удзельнікаў пікета атрымала папярэджанне. Дваім юнакам суд перанёс разгляд справы на няпэўны тэрмін, бо яны папрасілі прысутнасці адваката, паколькі ім інкрымінуецца дробнае хуліганства.

Такім чынам, можна канстатаваць, што пікетчыкі абышліся лёгкім спалохам, аб якім, можа, і не варта было б пісаць. Аднак гэтая падзея востра паставіла адно вельмі важнае пытанне: якім чынам грамадзяне нашай краіны могуць выказаць сваю нязгоду з тымі ці іншымі падзеямі ці рашэннямі ўладаў? Якім чынам можна законна і без парушэння грамадскага парадку выкарыстаць прадастаўленую Канстытуцыяй свабоду выказванняў, пікетаў, шэсцяў, мітынгаў ва ўмовах, калі гарадскія ўлады пастаянна забараняюць іх? Прычым гэтая праблема будзе паўставаць перад уладамі ўсё часцей, бо відавочна, што калі няма апазіцыі ў парламенце, то яна выходзіць на вуліцы.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

ПОГЛЯД

## КАПІТАЛІЗМ З ТВАРАМ АБЛОМАВА
### Якой ідэалогіі не хапае беларускай дзяржаве?

**«Чаму жыццё становіцца ўсё больш цяжкім і дзе выйсце з гэтага становішча?» — такое пытанне задаюць сабе сёння мільёны грамадзян Беларусі. Кожны адказвае на яго па-свойму, аднак нельга не заўважыць, што пераважаюць традыцыйныя, даходлівыя, зразумелыя тлумачэнні. Корань зла знаходзяць у распадзе Савецкага Саюза, адхіленні ад улады камуністаў, з'яўленні прадпрымальнікаў і банкіраў, падкопах Захаду, прыватызацыі і г.д.**

Гэтымі матывамі і настроямі наскрозь прасякнуты і львіная доля рэдакцыйнай пошты, і вынікі шматлікіх сацыялагічных апытанняў; з гэтымі довадамі даводзіцца штодня сутыкацца падчас гутарак з суседзямі, знаёмымі, героямі інтэрв'ю...

Гэта магія простага і даходлівага тлумачэння як бы знімае віну і адказнасць з кожнай канкрэтнай асобы. Адпадае патрэба шукаць прычыну ўласнага гаротнага стану ў самім сабе, сваіх учынках і дзеяннях. Знаходзіцца апраўданне для апатычнага, пасіўнага чакання: вось адбудуцца выбары (ці рэферэндум), паставім на месца палітыканаў і хапуг, адбяром катэджы і «мерседэсы» — і ўсё вырашыцца... Зноў адкрыецца родная фабрыка, якая дзесяцігоддзямі шыла нікуды не вартыя брыдкія чаравікі, а канструктар Мар'я Іванаўна, якая адказвала за знешні выгляд гэтых чаравікаў, вернецца ў свой утульны кабінецік, каб дні напралёт піць чай з сушкамі і атрымліваць свае сціплыя, але гарантаваныя 150 рублёў у месяц.

Савецкая сістэма, якая дзесяцігоддзямі ўзрошчвала і песціла прыгожую ідэю сацыяльнай роўнасці, неўпрыкмет для самой сябе выгадавала ў грамадскай свядомасці монстра ў выглядзе масавых утрыманскіх настрояў. Любы чыноўнік савецкай эпохі ўспомніць гэтыя незлічоныя скаргі на тое, што ў доме цячэ дах, што не падвезлі паліва, што цесная кватэра, што пакрыўдзілі, размяркоўваючы тэлевізары ці пральныя машыны... Памятаю, як ужо на пачатку 90-х гадоў у кабінеце старшыні Слуцкага гарвыканкома быў сведкам спрэчкі, калі жанчына, што жыла ў старым доме, які патрабаваў рамонту, дабівалася бясплатнай новай кватэры і ўпарта адмаўлялася ад ільготнага шматгадовага крэдыту, які прапаноўваў ёй мэр для будаўніцтва.

У той, ранейшай сістэме для такіх паводзінаў знаходзілася апраўданне: дзяржава ў імя сацыяльнай справядлівасці пільна сачыла за тым, каб прыватная ініцыятыва не выходзіла за адведзеныя ёй вузкія рамкі. І ў грамадзяніна ў многіх выпадках проста не было іншага выйсця, як толькі спадзявацца на апеку дзяржавы.

Цяпер час змяніўся. А псіхалогія людзей у многіх выпадках засталася той жа «саўковай», разлічанай на тое, што можна доўга і цярпліва стаяць у чарзе і як узнагароду за цярплівасць атрымаць чаканую даброту — машыну, кватэру, кавалак каўбасы ці прыстойныя боты.

Год таму мае знаёмыя ў пошуках лепшага жыцця з'ехалі ў Злучаныя Штаты. Першыя іх пісьмы былі поўныя расчаравання: спадзяваліся на тое, што багатая Амерыка расшчодрыцца на лёгкую працу, за якую будуць плаціць добрыя грошы. А аказалася, што працаваць «як у нас», а атрымліваць «як у іх» не выйшла. Усяго даводзілася дабівацца самім. Праца знайшлася, але напружаная і цяжкая — ад цямна да цямна. Расслабляцца не выпадае — за «халтуру» можна лёгка страціць месца. Затое заробленых за год грошай хапіла і на прыстойнае жыццё, і на машыну, і на дастатак у хаце. Праўда, кватэру пакуль арандуюць, але яшчэ паўгода-год — і хопіць грошай на тое, каб падумаць пра ўласны асобны дом.

Мы — не лепшыя і не горшыя за іншых. І іншую дарогу, акрамя той, якую ўжо пратаптаў цывілізаваны свет, — наўрад ці знойдзем. Але пакуль што, падобна, не губляем надзеі знайсці.

На працягу мінулых гадоў у Беларусі рабілася нямала спроб выпрацаваць новую дзяржаўную ідэалогію, якая б запоўніла вакуум, што ўтварыўся на руінах камуністычнай тэорыі і практыкі. У розны час і розныя палітычныя фігуры з высокіх трыбун гаварылі то пра нацыянальнае адраджэнне, то пра славянскую еднасць, то пра рынычны сацыялізм, то пра выратавальную місію беларуска-расійскай інтэграцыі аж да ўтварэння адзінай дзяржавы.

Падобных ідэй і схем можна прыдумаць вялікае мноства. І цешыць сябе ілюзіяй, нібы яны выратуюць народ ад беднасці. І потым з жахам здзіўляцца, што, нават страціўшы дзяржаву, народ не стаў жыць лепш.

Між тым, адзінай патрэбнай нам у сённяшніх умовах ідэалогіяй павінен стаць культ ініцыятыўнай стваральнай працы. Працы не ў імя дзяржавы і не ў імя ідэі — у імя самога сябе, сваёй сям'і і дзяцей. «Светлыя ідэалы» ўжо давялі да таго, што наш чалавек, у доме якога пацёк дах, гатовы месяцамі весці перапіску з уладнымі інстанцыямі замест таго, каб самому зарабіць грошы на рамонт і не назіраць гадамі, як цячэ са столі.

Адзіная задача дзяржавы — падтрымаць ініцыятыву, не замінаць тым, хто ўмее і хоча працаваць. І не цешыць людзей ілюзіямі. Капіталізму з тварам Абломава не бывае. Дзяліць грамадскі пірог, абараняючы нямоглых і ўбогіх, вядома, справа высакародная, але яна мае сэнс толькі тады, калі ёсць каму гэты пірог спячы.

Пакуль жа новае пакаленне мінчан, натхнёнае чуткамі пра бясплатныя амерыканскія бутэрброды, у ноч на 11 снежня гатова было нават праз амонаўскія дубінкі штурмаваць новую закусачную «Макдональдс» у цэнтры сталіцы. Лаканічнае слова «бясплатна» дзейнічае на дзяцей гэтак жа, як і на бацькоў. Ганебная карцінка, якая дакладна ілюструе масавую псіхалогію цяперашняга беларускага грамадства.

**Валянцін ЖДАНКО.**

## РЫЖАНКОЎ Уладзімір Мікалаевіч

Рэспубліка Беларусь панесла цяжкую страту. 12 снежня 1996 года пасля непрацяглай хваробы памёр міністр спорту і турызму Рэспублікі Беларусь, прэзідэнт Нацыянальнага алімпійскага камітэта Уладзімір Мікалаевіч Рыжанкоў.

Уладзімір Мікалаевіч Рыжанкоў нарадзіўся ў 1945 годзе ў Добрушы Гомельскай вобласці.

У 1964 годзе скончыў Гомельскі дарожна-будаўнічы тэхнікум, затым — Беларускі дзяржаўны інстытут фізічнай культуры, Мінскую вышэйшую партыйную школу.

Свой працоўны шлях Уладзімір Мікалаевіч пачынаў у 1964 годзе дарожным майстрам, служыў у радах Савецкай Арміі, вучыўся ў Беларускім дзяржаўным інстытуце фізічнай культуры, пасля заканчэння якога з 1972 года ў ім жа працаваў выкладчыкам, сакратаром камітэта камсамола, затым загадчыкам кафедры і кабінета Белсаўпрофа.

У 1978 годзе назначаны намеснікам старшыні Цэнтральнага Савета спартыўнага таварыства «Ураджай», а ў 1979 годзе — начальнікам упраўлення фізічнай культуры і спорту пры Савеце Міністраў БССР.

З 1982 года на партыйнай рабоце: інструктар, загадчык сектара фізкультуры і спорту аддзела адміністрацыйных органаў ЦК КПБ.

У 1990 годзе Уладзімір Мікалаевіч Рыжанкоў становіцца Старшынёй Дзяржаўнага Камітэта Рэспублікі Беларусь па фізічнай культуры і спорту.

У лістападзе 1995 г. указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Уладзімір Мікалаевіч Рыжанкоў назначаны Міністрам спорту і турызму Рэспублікі Беларусь.

Пайшоў з жыцця чалавек, вядомы дзяржаўны дзеяч, які з глыбокім веданнем справы вырашаў пытанні станаўлення і развіцця алімпійскага спорту, фізкультурна-масавага руху ў нашай краіне. Ён актыўна прапагандаваў і рэалізоўваў у краіне высокія прынцыпы алімпійскага руху.

Для яго былі характэрны прынцыповасць і настойлівасць, вялікія арганізатарскія здольнасці, канкрэтнасць у вырашэнні пастаўленых задач.

Яго вызначалі душэўная шчодрасць, спагадлівасць, глыбокая прыстойнасць. Гэтыя агульнавядомыя якасці прыцягвалі да яго кожнага, хто з ім меў зносіны.

За заслугі перад Радзімай Уладзімір Мікалаевіч Рыжанкоў узнагароджаны многімі ганаровымі граматамі, Граматай Вярхоўнага Савета БССР. Ён быў удастоены высокіх званняў «Заслужаны работнік фізічнай культуры і спорту БССР» і «Заслужаны трэнер БССР».

Светлая памяць аб Уладзіміру Мікалаевічу Рыжанкову назаўсёды застанецца ў сэрцах яго калег па рабоце, спартсменаў, усіх, хто ведаў яго па працоўнай і грамадскай дзейнасці.

**А. Р. Лукашэнка, А. А. Малафееў, В. У. Шэйман, С. С. Лінг, М. У. Мясніковіч, І. І. Ціцянкоў, У. В. Русакевіч, У. Г. Гаркун, В. Б. Далгалёў, В. І. Кокараў, У. М. Канаплёў, У. В. Ярмошын, У. В. Бойка, В. Б. Даргель, І. М. Драбышэўская, А. У. Сасноўскі, В. І. Стражаў, У. П. Бельскі, В. Н. Грошаў.**

## ПАВЕДАМЛЕННЕ ЎРАДА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь з жалем паведамляе, што 12 снежня 1996 года, пасля непрацяглай хваробы, на 52-м годзе жыцця памёр міністр спорту і турызму Рэспублікі Беларусь Уладзімір Мікалаевіч Рыжанкоў.

Калегія Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь выказвае глыбокае спачуванне родным і блізкім У.М. Рыжанкова.

Распараджэннем Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 12 снежня 1996 года ўтворана ўрадавая камісія па арганізацыі пахавання У.М.Рыжанкова.

## ПАВЕДАМЛЕННЕ ЎРАДАВАЙ КАМІСІІ ПА АРГАНІЗАЦЫІ ПАХАВАННЯ У.М.РЫЖАНКОВА

Труна з целам нябожчыка будзе ўстаноўлена ў будынку інфармацыйна-культурнага цэнтра Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па вул. Кастрычніцкая, 5. Грамадзянская паніхіда пройдзе з 12.00 да 14.00 13 снежня 1996 года.

Пахаванне У.М.Рыжанкова адбудзецца на Маскоўскіх могілках у 15.00 13 снежня 1996 года.

**Упраўленне справамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь глыбока смуткуе ў сувязі са смерцю міністра спорту і турызму Рэспублікі Беларусь Рыжанкова У. М. і выказвае спачуванне яго родным і блізкім.**

**Учора раніцай пайшоў з жыцця міністр спорту і турызму Рэспублікі Беларусь Уладзімір Мікалаевіч Рыжанкоў**

**Ён лёгка ішоў на кантакты, неаднаразова выступаў на старонках «Звязды» з інтэрв'ю і ў «прамой лініі». У спартыўна-турыстычнай галіне краіны ў свае няпоўныя 52 гады ён збіраўся зрабіць яшчэ многа.**

**Калектыў «Звязды» смуткуе з прычыны смерці міністра спорту і турызму Рэспублікі Беларусь Уладзіміра Рыжанкова і прыносіць свае спачуванні родным, блізкім і сябрам нябожчыка.**

## НЯХАЙ ГУЧАЦЬ ЗВАНЫ НАД БЕЛАРУССЮ

**Са старажытных часоў званы з'яўляюцца адной з неабходных прыналежнасцей праваслаўнага храма. Яны збіралі вернуючых на богаслужэнне, адзначалі асабліва важныя яго моманты, склікалі нашых продкаў на веча, указвалі шлях заблукаўшым падарожнікам, паведамлялі пра небяспеку, перамогу ці вайну.**

**Сёння ў Беларусі каля тысячы праваслаўных храмаў. Амаль у кожным з іх ёсць званіца. Да нядаўняга часу званы прывозіліся з-за мяжы, у прыватнасці з Масквы. І вось у верасні загучаў у нас першы зван, адліты ў Беларусі. Сёння іх ужо больш за дзесяць — у Пінску, Маладзечне, Хойніцкім раёне, у Ракаве, Нясвіжы. Адліваюць іх на заводзе імя Кірава прадпрыемства «Выдатнае ліццё», з прадстаўніком якога ўдалося пагаварыць.**

Сёння на Беларусі ўпершыню за ўсю гісторыю адліты званы. Папярэднічалі гэтаму доўгая праца ў бібліятэках — з манускрыптамі, старымі кнігамі, а пасля не менш доўгія эксперыменты непасрэдна з матэрыялам. Можна сказаць, быў прыменены вядомы «метад навуковага тыку». І хоць першы дзесятак званоў не прынёс ніякага прыбытку вытворцам, яны ўсё ж спадзяюцца на рэнтабельнасць гэтай справы. На гэта ўказваюць і кошт (у Беларусі вытворчасць звона абыходзіцца больш як у тры разы танней, чым у Маскве), і попыт. Да прыкладу, зараз выконваецца заказ Мінскага Свята-Петрапаўлаўскага сабора, аднаго з буйнейшых у Беларусі праваслаўных храмаў, і, трэба думаць, заказ гэты не адзіны: званы — інструмент тонкі, патрэсканыя рэстаўрацыі не падлягаюць. Дарэчы, менавіта сапсаваныя званы і з'яўляюцца значнай часткай матэрыялу для вытворчасці новых.

Адзін з першых званоў, зробленых у Беларусі, дарэчы, вісіць зараз на ВДНГ, і пазваніць у яго можа кожны жадаючы.

**Яна САВІЦКАЯ.**

## ДЗЕ ЎЗЯЦЬ ГРОШЫ? ХАЦЯ Б НА ВЫРАШЭННЕ САЦЫЯЛЬНЫХ ПРАБЛЕМ

**Інстытут эканамічнага развіцця Сусветнага банка распрацаваў вучэбную праграму «Рэформа сацыяльнай палітыкі ў краінах з пераходнай эканомікай».**

**На сённяшні дзень праграма функцыянуе ў дванаццаці краінах: Манголіі, пяці краінах Цэнтральнай Азіі і іншых шасці краінах былога СССР.**

У межах вучэбнай праграмы і прайшоў нядаўна ў Мінску семінар «Праблемы фінансавання сацыяльнага сектара». Удзел у шматгранных дыскусіях узялі вучоныя, кіруючыя работнікі і спецыялісты міністэрстваў, якія працуюць у сферы сацыяльнай абароны насельніцтва. Падобныя семінары ўжо праводзіліся на Украіне і ў Расіі, ва Узбекістане і Казахстане, у Кыргызскай Рэспубліцы і Таджыкістане. Якую галоўную мэту вырашылі арганізатары семінара, каардынатары вучэбнай праграмы? На гэта пытанне адказвае доктар эканамічных навук Леанід Давыдзенка (ён, дарэчы, прайшоў навучанне на выкладчыцкіх курсах «ТОТ»).

— Задачы Беларускай праграмы падрыхтоўкі кадраў скіраваны на тое, каб падтрымаць рынычны падыход да сацыяльнай палітыкі і сацыяльных гарантый. Неабходна як найхутчэй праясніць прыярытэтныя накірункі сацыяльнай рэформы. Мы разгледзелі і розныя падыходы да сацыяльнай абароны на рэгіянальным узроўні, абмеркавалі рэкамендацыі па кіраванню рынкам працы.

Што ж, магчыма, для некага семінар і стаў падказкай, дзе ўзяць грошы на задавальненне патрэб сацыяльнай сферы. Застаецца толькі самае простае — зарабіць іх.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

## СВЕДЕНИЯ ОБ ОБЪЕКТЕ РЕСПУБЛИКАНСКОЙ СОБСТВЕННОСТИ

**арендной специализированной передвижной механизированной колонне № 3 г. Могилева Республиканского арендного предприятия «Белспецмонтаж», подлежащей разгосударствлению и приватизации**

| | | | |
|---|---|---|---|
| Полное и сокращенное наименование объекта приватизации, его ведомственная принадлежность | | | Арендная специализированная передвижная механизированная колонна № 3 Республиканского арендного предприятия «Белспецмонтаж» |
| Адрес | | | 212036 г. Могилев, ул. Симонова, 163. Тел. 44-50-77, факс 44-50-77. |
| Вид деятельности объекта приватизации, укрупненная номенклатура выпускаемой продукции | | | Строительство и капитальный ремонт объектов газоснабжения и других инженерных сетей и сооружений |
| Планируемые сроки приватизации | | | IV квартал 1996 г. |
| Предполагаемый способ разгосударствления и приватизации | | | Преобразование арендного предприятия в открытое акционерное общество |
| Орган, осуществляющий приватизацию данного объекта, и его местонахождение | | | г. Минск, ул. Мясникова,39 Мингосимущество, |
| Численность работающих, чел. | | | 210 |
| Сроки предъявления претензий | | | Месяц со дня опубликования |
| Предполагаемая величина уставного фонда создаваемого ОАО, млн. руб. | | | 8100 |
| Стоимость основных фондов, млн. руб. | Всего | | 6798 |
| | в т. ч. по группам | зданий и сооружений | 3050 |
| | | машин и оборудования | 3238 |
| | | непроизводственных фондов | 510 |
| Площадь земельного участка, занимаемого объектом, га | | | 2,144 |
| Начатые инвестиционные проекты, млн. руб. (незавершенное строительство) | | | 250 |
| Наличие принадлежащих предприятию долей (паев, акций) в активах других предприятий, млн. руб. | | | -- |
| Нематериальные активы, млн. руб. | | | 7 |
| Финансовое состояние объекта, млн. руб. | Балансовая прибыль | | 510 |
| | Задолженность | кредиторская | 6014 |
| | | дебиторская | 8817 |

## ШЧАСЦЕ НА КРЫВІ

**Ці можна на чужым горы збудаваць сваё шчасце? Гэта пытанне не сённяшняга дня. Як толькі наш продак адчуў сябе чалавекам і перад ім паўстала праблема граху, то ўзнікла і гэта пытанне. І чалавек веруючы скажа, што за грэх прыйдзецца адказваць нават нашчадкам да чацвёртага калена, альбо самому грэшніку, бо «хто есць кіслы вінаград, у таго і аскома на зубах». Цынік жа толькі ўсміхнецца.**

У мястэчках і гарадах даваеннай Беларусі пераважная большасць насельніцтва былі яўрэі. Поўнасцю кантралюючы гандаль і іншыя сферы дзелавога жыцця, пэўная частка яўрэяў жыла заможна. Пачалася вайна. Немцы наступалі імкліва, а яўрэі паводзілі сябе пасіўна і амаль усе засталіся на месцы, але былі і тыя, хто паспрабаваў выратавацца.

... Хутар Самусіка быў за пяць кіламетраў ад Баранавіч. Вечарам, калі ўжо пачало шарэць, да хутара падышла сям'я яўрэяў. Адна з самых багатых у горадзе. У старога яўрэя праз плячо былі перакінуты дзве хромавыя «тэчкі», несла сумку і жонка, дзве дачкі трымалі невялікія вузельчыкі.

Яўрэй папрасіў, каб ім далі прыстанак і схавалі. За гэта абяцаў заплаціць золатам. Гаспадар хутара вагаўся, але яго жонка запратэставала. Маўляў, у хаце шасцёра дзяцей, наскочаць немцы і хутар спаляць, а то ўсіх перастраляюць.

Яўрэі не настойвалі, крыху адпачылі і сабраліся ісці далей.

У кіламетры ад Самусікаў быў хутар Яровіча. Вось гаспадар вывеў яўрэяў на сцяжынку і сказаў:

— Ідзіце ўскрайкам поля і трапіце на хутар, ён вунь і відаць. У Яровіча малых дзяцей няма, можа і дамовіцеся, можа і прымуць.

Яўрэі адзін за адным пайшлі ў лёгкае сутонне, да хутара.

А раніцай, «на шарачка», Самусік узяў касу і падаўся на свой сенакос, які межаваў з зямлёй Яровіча. Пачаў класці пракос і тут убачыў, што трава моцна ўтаптана. Пайшоў па слядах і ў акопчыку, які застаўся яшчэ з першай вайны, знайшоў учарашніх яўрэяў. Відавочна білі сякерай па галовах, бо твары былі моцна заліты крывёю. Ляжалі адзін на адным, у самых ненатуральных позах. Сумак не было.

Самусік пакрочыў па слядах назад і ўбачыў, што ланцужок знікае на лузе Яровіча.

Трэці дзень вайны. Улады няма. Каму заявіць? Немцам? І Самусік патупаў да Яровіча і спытаў, ці заходзілі ўчора вечарам да яго яўрэі.

— Нікога не было, — адказаў гаспадар, — вось і сабака голасу не падаў.

І тут у Самусіка закралася падазрэнне. Калі б Яровіч сказаў, што былі, то іншая справа. Былі ды пайшлі. А тут махлюе.

А калі яны прыйшлі да акопчыка, то Яровіч вельмі ж ужо абураўся. Яўрэяў тут жа ў акопчыку і пахавалі. Проста акопчык засыпалі і ён амаль зраўняўся з зямлёю.

За гады вайны забойства яўрэйскай сям'і неўпрыкмет адышло на другі план, забылася, бо яшчэ многа было слёз, крыві, гора. Але паміж Самусікам і Яровічам пралёг цень. Сустрэнуцца, а гаварыць няма пра што.

Пасля вайны пачалі зганяць з хутароў. Яровіч першым падаўся ў горад. Кінуў хутар і з'ехаў. Самусік доўга не мог прадаць свой, але ўсё ж збыў. Яны ўчасткі атрымалі на адной вуліцы, толькі ў розных канцах. Яровіч быў слабым гаспадаром, асабліва да работы не рваўся, а тут Самусік убачыў, што будуецца з размахам. Дом цагляны на два канцы, а наўкол драўляныя. Праз два гады ў Яровіча паўстала даміна, а Самусік свой і за пяць не закончыў. Сустракае ён аднойчы жонку Яровіча, а ў яе поўны рот залатых зубоў.

Сыны Яровіча на суседняй вуліцы таксама дамы паставілі, а затым і машыны пакуплялі, праўда, стары Яровіч ужо памёр.

Састарэлы Самусік, які расказаў гэту сумную гісторыю, абсалютна ўпэўнены, што трагедыя, якая разыгралася на хутары, на сумленні яго суседа.

Цяжка сёння ўжо высветліць, як яно было, але няма падстаў і не верыць старому чалавеку.

І тут мы закранулі яшчэ адну праблему. У чалавека часта ёсць «чарвячок», які точыць яго душу. Зайздрасць, прагнасць, цяга да нажывы і іншыя заганы стрымлівае найперш страх пакарання. Страх перад законам, перад Богам, перад сваім сумленнем часта не дапускае чалавека да граху.

Гэта калі існуе закон.

Пры розных катаклізмах, рэвалюцыях, войнах, дыктатурах уладарыць беззаконнасць. Жыццё чалавека губляе каштоўнасць, Чачня і Боснія — яскравае пацвярджэнне гэтаму. Бясследнае знікненне тысяч людзей пры дыктатарскіх рэжымах — звычайная з'ява апошняй чвэрці XX стагоддзя.

Што датычыцца пачатку нашай размовы, то, сапраўды, на чужых слязах і крыві шчасця наўрад ці збудуеш.

Хаця стары Яровіч і памёр, усе тры сыны яго загінулі. Малодшы разбіўся на аўтамашыне, сярэдні апёкся варам і памёр, а старэйшы павесіўся.

Прозвішчы зменены, каб не рабіліся здагадкі, а калі і ўзнікнуць нейкія паралелі, то гэта выпадковасць.

**Сымон СВІСТУНОВІЧ.**

## ДАНЧЫК ВЯРТАЕЦЦА

**Днямі ў Беларусь прыехаў Данчык — Багдан Андрусішын — амерыканскі грамадзянін, выдатны выканаўца беларускіх песень. У папярэднія візіты, на пачатку 90-х гадоў, калі Беларусь перажывала нацыянальны ўздым, ягоныя песні абудзілі гарачыя пачуцці патрыятызму ў душах слухачоў.**

А сёлета Данчык зробіць бліц-турнэ па гарадах Беларусі, дзе выступіць з праграмай «Данчык вяртаецца». 12 снежня адбыўся канцэрт у Гродне, 16—18 снежня яго змогуць убачыць і пачуць мінчане ў філармоніі і тэатры імя Янкі Купалы, а 19—20 ён выступіць у Полацку і Віцебску.

**Таццяна АНТОНАВА.**

## «НЕМАГЧЫМЫЯ ФІГУРЫ» ОСКАРА РОЙТЭРСВЕРДА

**12 снежня ў Мінску, у мастацкай галерэі «Жыльбел», адкрылася выстава шведскага мастака Оскара Ройтэрсверда. Яе арганізатарам выступіў беларускі ПЭН-цэнтр. А на адкрыцці прысутнічалі прадстаўнікі пасольстваў, мастацтвазнаўцы, паэты і пісьменнікі.**

Для беларускай публікі «Немагчымыя фігуры» Оскара Ройтэрсверда, прадстаўленыя на выставе, аказаліся нечаканымі. Ды гэта і не дзіўна. Наша вока прывучана да ўспрымання мастацтва рэалістычнага, дзе ўсё пазнавальнае, зразумелае.

У Швецыі, як піша мастацтвазнаўца Ларс Клеберг, адкуль родам мастак, «Немагчымыя фігуры» выйшлі за звычныя рамкі выяўленчага мастацтва (іх ведае кожны школьнік, яны адлюстраваны на паштовых марках!). У міжнародным плане «Немагчымыя фігуры» зрабілі мастака Оскара Ройтэрсверда вядомым — у яго мноства паслядоўнікаў і некалькі імітатараў.

Дарэчы, Оскар Ройтэрсверд, з творчасцю якога могуць пазнаёміцца беларускія гледачы, мае рускія карані. Мастацкае даследаванне свету гэтым мастаком — надзвычай арыгінальнае. Тут сінтэз інтуітыўнага і лагічнага падыходу вучонага, які даследуе новы свет — свет, які, хутчэй за ўсё, не існуе, свет немагчымага.

Адрас выставы — Дом прыроды, Траецкае прадмесце.

**Таццяна АНТОНАВА.**

## ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ

### МІНІСТЭРСКІЯ ПАСАДЫ РАЗМЯРКОЎВАЛІСЯ ПА НАЦЫЯНАЛЬНАМУ ПРЫЗНАКУ

Учора калектыўны прэзідыум Босніі і Герцагавіны павінен быў сфарміраваць урад краіны. Пасяджэнне было прызначана яшчэ на сераду, аднак на яго без тлумачэння прычын не з'явіўся прадстаўнік баснійскіх сербаў Крайшнік. Раней Ізітбегавіч, Крайшнік і Зубак дамовіліся аб саставе кабінета. Савет Міністраў будзе збірацца раз на тыдзень. Старшынстваваць на ім будуць па чарзе прадстаўнікі мусульман і сербаў, а намеснікам старшыні стане харват. Пасаду міністра замежных спраў цэнтральнага ўрада будзе займаць таксама харват. Міністрам знешняга гандлю стане мусульманін, а ведамства па грамадзянскіх справах і сувязях узначаліць серб. Структура ўрада павінна быць зацверджана аб'яднаным парламентам. Дагэтуль парламент не змог правесці ніводнай сесіі ў поўным саставе.

### ПАЛЕСЦІНЦЫ ПАРУШЫЛІ ЗАКОН ГАСЦІННАСЦІ

Прэм'ер-міністр Ізраіля Нетаніягу заявіў, што напад палесцінцаў на яўрэйскіх пасяленцаў, які адбыўся ў сераду на заходнім беразе ракі Іардан, апраўдвае жорсткую пазіцыю Ізраіля на перамовах аб перадыслакацыі войскаў у Хеўроне. Ізраільскія ўлады абвінавачваюць радыкальных палесцінцаў з горада Рамалах у нападзе на сям'ю ізраільцян, у выніку якога загінулі жанчына і дванаццацігадовае дзіця. Яшчэ чацвёра дзяцей і іх бацька атрымалі раненні. Ізраільскія сілы бяспекі блакіравалі горад. Нетаніягу паабяцаў, што забойцам не ўдасца пазбегнуць ад адказнасці. Палесцінскія ўлады таксама вядуць пошук злачынцаў.

### ЗША ПАСТАЎЛЯЕ ЗБРОЮ ПАЎДНЁВАЙ КАРЭІ

ЗША маюць намер паставіць Паўднёвай Карэі буйную партыю ўзбраення на суму больш за 600 мільёнаў долараў, у тым ліку рэактыўныя ўстаноўкі залпавага агню. Пастаўка гэтых узбраенняў адпавядае знешнепалітычным мэтам нацыянальнай бяспекі Злучаных Штатаў, паколькі такім чынам умацоўваецца бяспека дружалюбнай ім краіны, запэўнівае Пентагон.

### ААН ВЫСТУПАЕ СУПРАЦЬ ДЗІЦЯЧАЙ ПРАЦЫ

Дзіцячы фонд ААН заклікаў сусветную супольнасць да тэрміновых дзеянняў па спыненню небяспечнай дзіцячай працы. Колькасць працуючых дзяцей у свеце дасягае сёння соцень мільёнаў. Асабліва вострая праблема стаіць у краінах Азіі, Афрыкі і Лацінскай Амерыкі, якія развіваюцца. Сярод першапрычын шырокага распаўсюджання дзіцячай працы эксперты называюць беднасць, адсутнасць адукацыі і традыцыі.

### РУСКАЯ МАФІЯ «АДМЫВАЕ» ГРОШЫ НА УОЛ-СТРЫТ

Руская мафія аб'ядналася з італьянскай «Коза ностра» і паспяхова штурмуе Уол-стрыт. Так лічыць аўтарытэтны часопіс дзелавых колаў Амерыкі «Бізнес-уік». Сёння, адзначае часопіс, і кланы італьянскай мафіі, і члены рускай арганізаванай злачыннасці кантралююць каля двух дзесяткаў брокерскіх фірмаў. А за апошнія некалькі гадоў, лічыць часопіс, рускія ўкаранілі сваіх людзей у брокерскую справу, накіравалі туды сваіх дзяцей з «чыстымі» біяграфіямі і зараз спакойна «адмываюць» грошы.

**Паводле паведамленняў радыё «Свабода», «Голас Амерыкі», «Радыё Расіі» і «Радыё-РОКС».**

*РЭПАРЦЁР АТРЫМАЎ ЗАДАННЕ...*

## ПАСПЫТАЦЬ БЕЛАРУСКАГА ВІНА

Ніводнае вялікае сямейнае свята, як правіла, не абыходзіцца без шумнага застолля. Так ужо заведзена ў нас, славян: калі прыйшоў госць у дом — даставай бутэльку. Узведзены ў ранг нацыянальнай традыцыі рытуал «абмывання» любой дарагой пакупкі. У такія вялікія святы, як Новы год, дзень нараджэння, засяленне ў новую кватэру ці рэдкае наведванне любімай цешчы на стол ставіцца ўсё самае лепшае. Акрамя шматлікіх закусак упрыгожваюць стол каньяк, шампанскае, гарэлка і віно. Выбіраючы сорт віна, перавагу, на жаль, аддаюць не айчынным вытворцам. Сімпатычна выглядае на сталах крымская «Масандра», «Стары нектар», «Мадэра», балгарская «Манастырская хата» ці «Вермут». Запаланілі прылаўкі магазінаў разнастайныя віны ў прыгожых бутэльках з краін далёкага замежжа. Віны айчыннай вытворчасці знайсці можна толькі ў невялікіх і непрывабных магазінчыках. Выключэннем, бадай, будзе «Советское шампанское» мінскай вытворчасці і віно «Вермут» аб'яднання «Крышталь». Рэдкія гурманы ці дурні купяць замест нашага замежнае шампанскае, а мінскі «Вермут» з задавальненнем купляюць нават студэнты, каб пачаставаць ім каханую дзяўчыну.

На астатнія моцныя віны мясцовага вырабу народныя дэгустатары прыклеілі ярлык «чарніла». Аднак не ўсе гэтыя віны можна аднесці да разраду «барматухі». Як мне ўдалося высветліць у спецыялістаў па віну ў Белхарчпроме, вінаграднае віно ў нас вырабляецца з вінаматэрыялаў нашых суседзяў — Арменіі і Украіны. У Беларусі яго адпаведным чынам апрацоўваюць, фільтруюць і разліваюць у бутэлькі. Такое вінаграднае віно падабалася многім аматарам гэтага напою, але сёння чамусьці прапала. Аказваецца, жаданне раз'яднацца і быць самастойнымі не пайшло на карысць мясцовым вінаробам. Напачатку 90-х гадоў аб'ёмы выпуску вінаградных він у рэспубліцы рэзка ўпалі. Крызіс мінаваў толькі сёлета. На моцныя віны мясцовай вытворчасці ўрад нядаўна знізіў акцыз на 5—10 працэнтаў, што і паслужыла сігналам да рэзкага павелічэння яго выпуску. За 11 месяцаў гэтага года вінаграднага віна было разліта па бутэльках у два разы больш, чым у мінулым (690 тысяч дал — сёлета, 331 тыс. дал — за 11 месяцаў мінулага года). Павялічылі паказчыкі спецыялісты па віну мясцовага пладова-ягаднага асартыменту. Сёння на 2 млн. дал гэтага віна выраблена больш, чым за гэты час летась. На жаль, якасць гэтага напою вымушае жадаць лепшага. Нават праспіртаваныя «барыгі» скардзяцца, што пасля напою «Загадка» доўга шуміць у галаве, а ад віна «Салёны яблык» два дні зводзіць страўнік. Сіняносы сусед па дому ханыга, скардзіўся на слонімскую «барматуху»: «Пасля яе памяць стала як трэснутыя начоўкі, ды і падбародак вечна разбіты». Прадаём «чарніла» мы ўсё больш і больш. Цана «бруднай» непрывабнай бутэлькі — ад 10 да 20 тысяч рублёў. З-за канкурэнцыі цана пладовага віна на некаторыя сарты нават упала.

Беларускае вінаробства ў новых эканамічных умовах толькі пачынае жыццё. Хочацца верыць, што ўжо праз некалькі гадоў бутэльку беларускага віна можна будзе з гонарам паставіць на стол у самае вялікае свята.

**Сяргей КУРКАЧ.**

## НА ЛІТОЎСКІХ ДАРОГАХ НОЧЧУ ЛЕПШ НЕ СПЫНЯЦЦА

Нешчаслівай была літоўская дарога для нашага суайчынніка, ветурача аднаго з сельгаспрадпрыемстваў Мінскай вобласці. Раніцай на аўтастрадзе Вільнюс — Каўнас яго аўтамабіль спынілі невядомыя ў форме, вельмі падобнай на паліцэйскую. Праверыўшы дакументы вадзіцеля, яны высадзілі яго з машыны, збілі і абрабавалі.

Як паведаміў карэспандэнту загадчык консульскага аддзела Пасольства Беларусі ў Літве Сяргей Бабоў, пацярпеўшаму была аказана дапамога, ён вярнуўся на радзіму. Па гэтаму факту заведзена крымінальная справа.

У пасольстве таксама праінфармавалі, што ў сувязі з частымі выпадкамі абрабавання аўтамабіляў Міністэрства ўнутраных спраў Літвы ўстанавіла новае правіла. Цяпер у начны час вадзіцелі могуць не спыняцца па патрабаванню службовых асоб у паліцэйскай форме, калі побач з імі няма аўтамабіля патрульнай службы з уключанай сіняй мігалкай.

**Альгімантас БРАЗАЙЦІС, БЕЛТА**

## КАНФІСКАВАЛІ КАЛАШНІКАВА З «ПЕРАПЛАЎКІ»

У адной з вёсак Чэрвеньскага раёна 6 снежня супрацоўнікі Чэрвеньскага РАУС у доме 38-гадовага рабочага аднаго з мінскіх аўтапрадпрыемстваў знайшлі і канфіскавалі аўтамат Калашнікава 1975 года выпуску. Яго ўладальнік патлумачыў, што гэты аўтамат ён украў яшчэ ў 1993 годзе з ліцейнага цэха, куды зброя была здадзена на пераплаўку.

**Васіль НІКАЛАЕЎ.**

## КРЫМІНАЛЬНЫЯ ГІСТОРЫІ: ЧАСТКА ДРУГАЯ

Справа аб забойстве каля начнога бокс-клуба «Рэактар» былога майстра рукапашнага бою Алега Шыбута (спартсмен атрымаў два ўдары нажом у сэрца) атрымала нечаканы паварот. Аддзел міліцыі Фрунзенскага раёна Мінска і пракуратура таго ж раёна доўга вырашалі, каму весці расследаванне. У рэшце рэшт пракуратура аддала міліцыі «лейцы ў рукі», спаслаўшыся на тое, што самі яны займаюцца толькі забойствамі, а ў дадзеным выпадку адбылося «нанясенне цялесных пашкоджанняў з наступствам смерці» (цікава: Шыбут памёр ад удараў нажа, але не быў забіты).

«Рэжуць» і «Рэактар». Апошнія падзеі далі падставу кіраўніцтву Фрунзенскага РАУС паслаць у выканком прадстаўленне наконт таго, каб бокс-клуб больш не быў начной установай, а працаваў толькі да 23.00. Наколькі вядома, такі ж дакумент падрыхтавала і пракуратура, і 10 студзеня на выканкомаўскім пасяджэнні кропкі над «і» будуць расстаўлены.

Дарэчы, па нашай інфармацыі, «Рэактару» далі месяц на выпраўленне недахопаў. Што маецца на ўвазе пад «выпраўленнем недахопаў» — невядома.

**Алесь СІВЫ.**

## СЁННЯ

### СОНЦА

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 8.20 | 15.48 | 7.28 |
| Віцебск – | 8.17 | 15.30 | 7.13 |
| Магілёў – | 8.09 | 15.37 | 7.28 |
| Гомель – | 7.58 | 15.43 | 7.45 |
| Гродна – | 8.34 | 16.04 | 7.30 |
| Брэст – | 8.26 | 16.14 | 7.48 |

### МЕСЯЦ

Маладзік 10 снежня

### ІМЯНІНЫ

Пр. Андрэя.
К. Луцыі, Атыліі.

### НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца воблачнае надвор'е, месцамі невялікія ападкі, туман, слабы галалёд. Тэмпература паветра ў Магілёве — 0—2 градусы марозу, Мінску, Гомелі, Віцебску, Гродне — каля нуля, Брэсце — 1—3 градусы цяпла.

У наступныя двое сутак на большай частцы тэрыторыі снег, мокры снег. 15-га ўначы — без ападкаў, на дарогах галалёдзіца. Тэмпература 14-га на працягу сутак — 1—6, 15-га ўначы — 4—9, удзень — 0—5 градусаў марозу.

**Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, апарат Міністра па справах Садружнасці Незалежных Дзяржаў выказвае глыбокае спачуванне Міністру па справах СНД Бамбізе Івану Міхайлавічу ў сувязі з напаткаўшым яго горам — смерцю роднага БРАТА.**

**Вярхоўны Суд Рэспублікі Беларусь выказвае шчырае спачуванне суддзі Вярхоўнага Суда Федарынчыку Іосіфу Іванавічу ў сувязі з нападкаўшым яго горам — смерцю МАЦІ. Смуткуем разам з яго роднымі і блізкімі.**

